ПУЛЬС

## "Белагра-2001" прадстаўляе...

**Прадукцыя больш як 250 вытворцаў з 16 еўрапейскіх краін прадстаўлена на Міжнароднай спецыялізаванай выставе "Машыны, абсталяванне і тэхналогіі для вытворчасці і перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі "Белагра-2001", якая экспануецца ў Мінску да 8 чэрвеня.**

Сярод удзельнікаў — прадпрыемствы і фірмы з Беларусі, Вялікабрытаніі, Венгрыі, Германіі, Даніі, Іспаніі, Латвіі, Літвы, Малдовы, Нідэрландаў, Польшчы, Расіі, Украіны, Францыі, Швейцарыі і Чэхіі. Мінскі трактарны завод прадставіў 18 мадэляў трактароў, ВА "Гомсельмаш" — корма- і збожжаўборачныя камбайны розных мадыфікацый, "Лідааграпраммаш" сумесна з нямецкай фірмай "Кейс" — высокавытворчыя збожжаўборачныя машыны.

Разам з сельскагаспадарчай тэхнікай на выставе прадстаўлена прамысловае вентыляцыйнае, халадзільнае і гандлёвае абсталяванне, а таксама абсталяванне па ўпакоўцы, расфасоўцы і маркіроўцы сельгаспрадукцыі.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Паказаў фігу міліцыянеру

**4 чэрвеня супрацоўнікамі міліцыі быў затрыманы Тадэвуш Гавін, былы старшыня Саюза палякаў на Беларусі, які ўзяў удзел у несанкцыянаваным пікеце, арганізаваным мясцовай арганізацыяй "Моладзь АГП".**

Пікет адбыўся на Прывакзальнай плошчы і быў прысвечаны вядомым палітыкам, што зніклі без вестак у Беларусі.

На працягу 45 хвілін пікетавання моладзь раздавала спецвыпуск газеты "Народная воля". Тадэвуш Гавін не з'яўляўся арганізатарам пікета, аднак паводле ягоных слоў узяў у ім удзел з салідарнасці. Пасля затрымання на яго былі складзены два пратаколы: "удзел у несанкцыянаваным пікеце" і "дробнае хуліганства". Дробнае хуліганства, паводле слоў Тадэвуша Гавіна, выяўлялася ў тым, што ён паказаў фігу ў відэакамеру супрацоўніка міліцыі.

**Павел МАЖЭЙКА.**

## Затрымалі банду

**Напачатку чэрвеня ў Мінску былі затрыманы 4 чалавекі, якія рыхтаваліся да нападу на інкасатараў. У складзе групы была адна жанчына, якая жыве ў горадзе Заслаўе Мінскага раёна.**

Паводле звестак прэс-службы пракуратуры горада Мінска, у дачыненні да іх санкцыянавана мера стрымання ў выглядзе ўтрымання пад вартай. Паводле папярэдняй змовы паміж сабою яны рыхтаваліся да разбойнага нападу на інкасатараў ТАА "Янтарь" з мэтай завалодання 10 тысячамі долараў ЗША. Аднак былі выкрыты яшчэ на стадыі падрыхтоўкі. Следства ў дачыненні да іх працягваецца.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## Засыпала па горла пяском

**Чатыры хвіліны спатрэбілася супрацоўнікам упраўлення Міністэрства па надзвычайных сітуацыях па Брэсцкай вобласці для таго, каб прыехаць для ратавання засыпанага пяском брэстаўчаніна.**

У мікраераёне Дуброўка, па вуліцы Прахадной, жыльцы капалі траншэю пад водаправод. Работы былі санкцыянаваны Міжрайгазам і іншымі арганізацыямі, якія кантралююць падобныя працы. Нечакана край траншэі абваліўся, 20-гадовы хлопец аказаўся па горла засыпаным пяском. Людзі, якія былі паблізу, кінуліся яго ратаваць, але беспаспяхова. Адначасова былі выкліканы ратавальнікі. Яны прыехалі праз чатыры хвіліны і раскапалі пацярпелага. У хлопца быў шок. Пасля аказання першай медыцынскай дапамогі ратавальнікі накіравалі яго ў бальніцу.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Атракцыённая смерць

**Мужчына і жанчына пацярпелі ў выніку збою ў рабоце карусельнага атракцыёна чэшскага луна-парка, які гастралюе ў Калінкавічах (Гомельская вобласць).**

Трагедыя адбылася з-за таго, што ў электрычнай сетцы адбыўся перапад напружання і ў гэты момант двух чалавек выкінула з кабіны атракцыёна. 38-гадовая жанчына атрымала пераломы ног, яе спадарожнік пацярпеў больш сур'ёзна і памёр у бальніцы.

## Арыштаваны за хабарніцтва

**Гомельская міліцыя арыштавала па абвінавачанні ў хабарніцтве двух работнікаў вучэбна-вытворчага камбіната вытворчага аб'яднання "Беларуснафта" і інспектара Камітэта па наглядзе за бяспечным вядзеннем работ у прамысловасці і атамнай энергетыцы пры МНС Беларусі.**

Службовым асобам прад'яўлена абвінавачанне ў неаднаразовым атрыманні хабару па папярэдняй змове за выдачу падробных дакументаў грамадзянам пра нібыта законачаныя імі курсы ў вучэбна-вытворчым камбінаце па спецыяльнасцях "памочнік бурыльшчыка" і "аператар кацельнай". Выраб такога дакумента ацэньваўся ў сярэднім у 120 долараў ЗША.

Затрыманым інкрымінуецца 5 эпізодаў. Паводле звестак праваахоўных органаў, за паслугамі да арыштаваных звярталіся людзі, якія жадалі паехаць на заробкі на нафтавыя радовішчы ў Расію.

**Ірына ШАНЦАВА.**

# ЗАКОН І ДЫШАЛЬ

## Жыццё тоне ў балоце чыноўных папер

*Анатоль Белашэдаў прыехаў у вёску Любкаўшчына ў 1982 годзе. Уладкаваўся механізатарам, працаваў, пакуль не прыйшла пара ісці на пенсію. Калгас некалі выдзеліў яму катэдж. Даволі прыстойны катэдж, пагядзеў на яго з боку — і мне спадабаўся. Усё б нармальна, ды спачатку здарылася перабудова, потым разбяганне братніх рэспублік у розныя бакі, разбурэнне агульнай эканомікі і эканомікі ўвогуле.*

*Загаварылі, што жыць трэба па сродках (як быццам раней гэта было не так), што за ўсё трэба плаціць. Ну вось Анатоль Міхайлавіч і заплаціў. 500 долараў за рамонт катэджа, дакладней, за ўстаноўку паравога ацяплення. Па ідэі калгас "Радзіма Я.Коласа" (пра які "Народная воля" ўжо аднойчы пісала з дапамогай вашага карэспандэнта) павінен быў аплаціць усе выдаткі. Белашэдаў на гэта ўсё яшчэ спадзяецца. Хаця з тае пары прайшло пяць гадоў. Па-мойму, спадзявацца ўжо няма на што...*

### 1.

У свой час Анатоль Міхайлавіч зрабіў памылку. Канкрэтна, хацеў прыватызаваць свой катэдж разам з групай грамадзян, таксама жыхароў Любкаўшчыны. Гэта былі ў асноўным настаўнікі, пенсіянеры, ды проста людзі, якія мелі што-небудзь да старшыні калгаса К.А.Каробкі. Адным словам, Канстанцін Аляксандравіч ім сваё канстытуцыйнае права на жыллё рэалізаваць не даваў.

Група жыхароў мела нахабнасць звяртацца ў розныя дзяржаўныя ўстановы і арганізацыі. Па меркаванні старшыні, гэтага рабіць нельга было ніяк. Такім чынам ён пакараў адступнікаў. Балазе, магчымасці ў яго ў гэтым сэнсе неабмежаваныя.

Але вернемся да нашага, дакладней, Белашэдавага паравога ацяплення. Каб яго ўстанавіць, Анатоль Міхайлавіч быў вымушаны прадаць сваё аўто. Вельмі танна, за 500 долараў. Іх якраз хапіла на ўсё. Праўда, больш нічога не засталося. Белашэдаў набыў паравы кацёл, 10 секцый батарэй па 15 долараў за штуку, 30 метраў труб, аплаціў таксама злучэнне з цеплатрасай і зварачныя работы. І было гэта яшчэ ў 1995 годзе. Сёння — 2001-ы. Грошы, паўтару, калгас не вярнуў.

Ну і што далей? Ясна што: пошукі справядлівасці. Белашэдаў пачаў з таго, што бліжэй, — Стаўбцоўскага райвыканкама. Яго старшыня М.В.Пархімовіч запэўніў, што "калгас згодны аплаціць за ўстаноўку паравога ацяплення, але вы не прадставілі ў бухгалтэрыю квітанцыі і іншыя дакументы па закупцы вамі неабходных дэталяў...". А гэта, прашу прабачэння, не так. Белашэдаў прадстаўляў дакументы. Мне — таксама. Асабіста я пераканаўся, што яны ў прыродзе існуюць. Іншая справа, калгас не вельмі, мякка кажучы, спяшаецца іх аплаціць.

Звароты ў раённую пракуратуру прынеслі вынік: Белашэдаву параілі звяртацца ў суд. Звярнуўся Анатоль Міхайлавіч? Не. Пошліна ў нашы часы даволі прыстойная, а пенсія — непрыстойная. Да таго ж Белашэдаў чамусьці слаба верыць у справядлівасць суда.

У Любкаўшчыну прыязджала камісія з Мінскага аблвыканкама на чале з Мікалаем Марозам. Камісія аптымістычна запэўніла Белашэдава, што "вашы патрабаванні будуць задаволены".

У той жа час старшыня выканкама Пархімовіч заяўляе Белашэдаву, што яму ніхто нічога даваць не будзе. Каму верыць? Я веру Пархімовічу. Ён бліжэй да зямлі. У работніка аблвыканкама — гэта адна з камандзіровак, на якую ён проста можа забыцца. Старшыня райвыканкама ўвесь час сядзіць на месцы і трымае лейцы ў сваіх руках. Ён добра ведае хто чаго варты ў раёне.

Тады трэба задумацца аб такім нюансе. Што значыць цэнтральная ўлада для мясцовай? Які яна мае ўплыў? Ці цыркуляры, пастановы, распараджэнні ціха тонуць у балоце папер? Ва ўсялякім разе, уявіць, што раённая ўлада прама ігнаруе загад абласной, дзесьці гадоў дваццаць таму было проста немагчыма. Высновы былі б зроблены хуткія і жорсткія. Прыходзіцца пагадзіцца з адным вядомым аналітыкам, які сцвярджае, што ў нас даўно склаліся мясцовыя эліты: раённыя, гарадскія, абласныя. Нават у кожным калгасе, у кожнай вёсцы ёсць свая эліта. Людзі, якія альбо самі з'яўляюцца ўладай, альбо проста набліжаны да "кармушкі".

Дзіўна, вельмі дзіўна, калі нагадаць ступень цэнтралізацыі ўлады ў нашай краіне. Хаця, думаю, дзіўнага няма нічога: чым большая цэнтралізацыя ўлады, тым больш яна залежная ад улады на месцы.

### 2.

У мяне перад вачыма цікавая даведка. Выдадзена Белашэдавай Надзеі Міхайлаўне. Даведка самая звычайная — аб колькасці адпрацаваных у калгасе дзён. Надзея Міхайлаўна — пенсіянерка, але ў калгасе "Радзіма Я.Коласа" пенсіянеры таксама павінны працаваць. Не менш як 100 дзён у год. Так загадаў старшыня, а сход калгаснікаў, натуральна, зацвердзіў. А інакш не будуць даваць зерня, саломы, сена і што там яшчэ даюць у якасці натураплаты. Ну, а Надзея Міхайлаўна палола буракі.

Даведка звычайная, але адрасат незвычайны — раённая пракуратура. Справа ў тым, што так проста даведку Белашэдаву не далі. Прыйшлося атрымліваць яе праз пракуратуру.

Каша заварылася з-за таго, што жонцы Анатоля Міхайлавіча не даплацілі за праполку буракоў. Дзесьці 3 мільёны па тым часе (да дэнамінацыі). Грошай не аддалі дагэтуль. І муж спрабаваў высветліць: чаму?

Я чамусьці думаю, што не высветліць ён нічога... Мала не атрымаць ад калгаса нічога, ніякай натураплаты, трэба яшчэ элементарна ўкрасці ў чалавека зробленыя грошы. Безумоўна, старшыня калгаса ў гэтых адносінах — чалавек унікальны. Відаць, яго нішто не пужае.

* * *

Старшыня абкама прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу Н.П.Новікаў у свой час даслаў свой адказ Белашэдаву па выніках праверкі калгаса "Радзіма Я.Коласа".

У прыватнасці, праверка знайшла парушэнні артыкулаў 366—373 Працоўнага кодэксу Рэспублікі Беларусь (!). Пра дзеянні старшыні калгаса было сказана даслоўна: "Старшыня калгаса К.А.Каробка не дазволіў абкаму прафсаюза правесці поўную праверку выкладзеных у заяве фактаў і дакументаў абгрунтаванасці пазбаўлення заяўнікаў пэўных даброт за працу, прадугледжаных Статутам і калектыўным дагаворам калгаса...".

Анатоля Міхайлавіча падтрымалі тыя, хто пацярпеў разам з ім падчас няўдалай прыватызацыі жылля. У выніку "група грамадзян" атрымала вельмі аптымістычную паперу, дзе гаварылася, што ўся праўда — на іх баку. Толькі не гаварылася, калі яна сапраўды будзе на іх баку. Законы парушаны, правы парушаны, жыццё значна ўскладнілася.

Белашэдаў — яму губляць ужо няма чаго — па-ранейшаму піша. У Стаўбцоўскі выканкам, да свайго дэпутата М.Дубовіка. Адусюль ён атрымлівае ўсё тыя ж аптымістычныя адказы. Толькі сваіх грошай ніяк вярнуць не можа.

Дэпутат Дубовік дасылае свае лісты альбо старшыні Мінскага аблвыканкама М.Ф.Дамашкевічу, альбо ў Стоўбцы і просіць вырашыць "пытанне". І яшчэ просіць яго праінфармаваць. Але штосьці ніхто не інфармуе.

Калі Анатоль Міхайлавіч Белашэдаў апошні раз мяне наведаў, прынёс сваю ганаровую грамату, якую яму далі падчас 50-годдзя. Працытую: "...Заставайцеся заўсёды чалавекам Вялкай (так у тэксце. — **А.С.**), чуллівым, глыбока гуманным, патрабавальным да сябе і другіх, мудрым і прынцыповым.

Праўленне калгаса "Радзіма Я.Коласа", Партыйны камітэт, прафсаюзны камітэт, старшыня калгаса К.А.Каробка".

Анатоль Міхайлавіч Белашэдаў, мне здаецца, застаўся чалавекам мудрым і прынцыповым. Толькі гэта сёння нікому, здаецца, не патрэбна.

**Андрэй СЯРЖАН.**

Беларускаму дзяржаўнаму універсітэту ёсць чым ганарыцца. Добрая слава пра яго выпускнікоў разляцелася, можна сказаць, па ўсім свеце. І гэта не выпадкова: у БДУ сапраўды ўмеюць рыхтаваць кадры. Клапоцяцца пра іх яшчэ тады, калі яны вучацца ў школе. З гэтай мэтай вось ужо каторы год пры універсітэце дзейнічае ліцэй. А з 1 верасня яго навучэнцы зоймуць парты ў цудоўным будынку, што па вуліцы Ульянаўскай *(на здымку)*.

У Беларускім дзяржаўным універсітэце дзяржаўны падыход да падрыхтоўкі кадраў заўтрашняга дня.

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.**

ГЛАС НАРОДА

## Верили, а теперь перестали

Уважаемая редакция, здравствуйте!

По всей вероятности, к Вам обращаются многие, кто знает, что государственные СМИ их наболевшее не опубликуют.

Недавно мы, работники Пинской дирекции строящихся предприятий Комитета по сельскому хозяйству и продовольствию Брестского облисполкома, были приятно удивлены. Нашему директору М.Рудковскому вручили благодарность от облисполкома за подписью его председателя В.Долголева, — за многолетнюю работу в системе мелиорации белорусского Полесья и ввод постчернобыльских объектов.

Хорошо, конечно, что отметили. Но, думается, человек, проработавший всю жизнь в одной отрасли, заслуживает большего, чем одна голая благодарность. И непонятно, почему вручал ее зам. председателя Пинского райисполкома А Линкевич, если мы непосредственно подчинены облсельхозпроду? Видимо, совесть не позволила приехать представителю облсельхозпрода, где председателем Я.Буховецкий, приехать к нам и посмотреть в глаза...

А суть в том, что из всех дирекций (их было семь в системе Главполесьеводстроя), которые выступали в качестве заказчика по мелиорации земель, строительству совхозов, заводов, жилья и пр. объектов, в Беларуси осталась наша. Одна-единственная. В ней всего-навсего 18 человек, и то двое из них работают на полставки. Средняя заработная плата — 44 тысячи в месяц, или 35 долларов США. Да при нашей работе с такими "деньжищами" и нынешними, уму не постижимыми ценами наших работников надо заносить в Красную книгу или Книгу рекордов Гиннесса! Хотел бы, чтобы кто-нибудь из вышестоящих руководителей (кстати, ни разу не приезжавших и не интересовавшихся, а как мы все-таки существуем?) составил рацион питания за эти деньги. Да ведь, кроме питания, человеку нужно еще немало всего другого.

И как такое могло случиться в "процветающей" Беларуси, каковой ее преподносят наши "верхи"? Что это — эксперимент на выживаемость без выделения необходимого финансирования на строительство объектов? Не издевайтесь над людьми. Труд мелиоратора, известно, очень тяжелый, и мы заслуживаем лучшей участи. Мы все ждали и верили, что наступит улучшение жизни, согласно выступлениям руководителя государства. Теперь уже не верим, ибо результатов не видно.

**Иван ЛЕМЕШЕВСКИЙ.**
г.Пинск.

## Любовь здесь больше не живет...

***Декрет президента Республики Беларусь "О едином налоге", который готовился в недрах власти в течение почти полутора лет, подписан. Несколько необычный для фискальной в отношении бизнеса Беларуси последних лет, сравнительно либеральный Декрет был необходим для предпринимателей. Но не всякая либеральность должна вызывать восторг.***

Определяя правовые рамки деятельности мелкого бизнеса, "новорожденный" позволяет местным органам власти самостоятельно устанавливать ставки единого налога в пределах обозначенной вилки. Точнее, городские и областные исполкомы предлагают разработанные ими ставки на утверждение одноименным Советам депутатов.

Власть спешит. Ставки единого налога утверждены для Витебска, Гомеля и соответствующих областей. Правда, на первых порах местечковая вертикаль зверствовать не стала и размеры ставок оказались приемлемыми. В частности, для торгующих наиболее распространенной смешанной группой товаров составили 35 евро, а с учетом коэффициента 1,3 (за право торговли импортным товаром) 45.5 евро.

Насколько известно, почти аналогичные ставки единого налога планируются в других областях, за исключением Минска и области. За счастье проживать в столице и столичной области или по каким-то другим мотивам местная исполнительная власть предлагает на утверждение Советам близкие к максимально возможным по Декрету размеры ставок. В частности, для торгующих той же смешанной группой товаров планируется 55 евро, с учетом коэффициента 1,3 — 71 евро. Сами ли минские чиновники решили проявить инициативу или делают это по намеку сверху — интересный вопрос.

Ознакомившись с "убедиловкой", направленной ГНИ по Минску столичным депутатам, я почему-то не убедилась в необходимости столь резкого повышения налогов. На мой взгляд, там нет ни цифр, ни фактов, способных вразумительно объяснить такую огромную разницу между ставками в Минске, и тем более области, с другими регионами. Утверждать, что в городе Молодечно налоги должны быть выше, чем в Полоцке, в 1,57 раза, только на основании того, что Молодечно находится в границах Минской области — смешно, как и спорить с этим. Поэтому давайте поговорим о Минске.

Да, Минск — крупнейший в Республике Беларусь город с населением примерно в 1 700 000 жителей. По данным Государственной налоговой инспекции из общего количества индивидуальных предпринимателей, зарегистрированных в столице, розничной реализацией товаров занимаются 26 941 человек. Это примерно третья часть всех тех, кто ведет аналогичную деятельность по всей Беларуси (таковых около 75 000). Таким образом, в пересчете на душу населения Минск значительно более плотно заполнен нашим братом, чем вся остальная территория Беларуси. Да, в среднем доходы минчан-предпринимателей выше, чем у остального населения. Но ведь и жизнь в Минске дороже. Представителям мелкого бизнеса приходится серьезно раскошеливаться за аренду торговых мест, камер хранения. Разумеется, эти затраты они компенсируют ценой на продаваемые минчанам товары.

За что минские власти так не любят минчан и своих предпринимателей? В преддверии президентских выборов могли бы изобразить симпатию. Ведь любить избирателей после них не обязательно. А сейчас — самое время было бы пересмотреть налоги. Но у минской исполнительной власти другой сценарий. И теперь, вероятнее всего, предпринимателей столицы с 1 июля ожидает вынужденный (разрешенный Декретом) отпуск, а Минскую мэрию — честно заработанная головная боль.

**Екатерина НАУМОВИЧ,**
**предприниматель с "Динамо".**

## Хто абароніць Малыша?

**Прадстаўнікі ўлад любяць паўтараць, што на Беларусі пануе не толькі свабода слова ў палітыцы, але ж і рыкавыя адносіны ў эканоміцы. Але ж якія могуць быць рыкавыя адносіны, калі на самай справе, напрыклад, на рынку нерухомасці цэны ў нашай краіне ўстанаўлівае не дагавор паміж прадаўцом і пакупніком, а яго вялікасць Бюро па тэхнічнай інвентарызацыі.**

Цікавы выпадак здарыўся ў Вілейцы. Выпадак гэты тыповы, на наш погляд, для ўсёй Беларусі. Жыхар Вілейкі Сяргей Малыш звярнуўся у гарадскі выканкам са скаргай на дзеянні мясцовага Бюро па тэхнічнай інвентарызацыі, згодна з рашэннем якога Малышу трэба заплаціць у бюджэт дзяржавы 3 968 113 рублёў, альбо амаль 3,5 тысячы долараў. Паколькі ў рабочага дзяржаўнага прадпрыемства "Зеніт" Малыша такіх грошай ніколі не было, ён пацікавіўся, чым ён так абавязаны дзяржаве.

І вось што высветлілася: два гады таму Сяргей Малыш абмяняў сваю гарадскую кватэру на недабудаваны прыватны дом Андрэя Савіцкага. Абмен прайшоў па ўзаемнай дамоўленасці гаспадароў кватэры і дома без дадатковай даплаты. Што і зафіксавана ў адпаведным дагаворы і заверана натарыусам.

Стаўшыя сябрамі Сяргей Малыш і новы шчаслівы гаспадар вілейскай кватэры Андрэй Савіцкі пераехалі кожны на новае месца жыхарства і амаль што забыліся пра абмен. Але ж тут у п'есу жыцця ўступае новы акцёр — вышэйзгаданае бюро, якое, згодна з нейкімі сваімі, мусіць, фантастычнымі меркамі, ацэньвае кватэру Малыша ў 4 мільёны рублёў, а дом Савіцкага — у 12 мільёнаў. У адпаведнасці з гэтай разнарадкай Малышу, як атрымаўшаму "маёмасны налог" было прадпісана заплаціць дзяржаве налог у памеры 3 мільёны рублёў. Трапіўшы ў пастку, Сяргей Малыш пачаў шукаць праўды ў розных установах і намагаўся растлумачыць сітуацыю аб тым, што Савіцкі сам пагадзіўся на такія ўмовы і ніякай даплаты не патрабаваў, што няма ў дзяржаўнага працоўнага, якім з'яўляецца Малыш, 3 мільёнаў рублёў... Усё дарма! Больш за тое, Сяргея "абрадавалі", што за час блукання па пакутах да трох мільёнаў дадалася яшчэ і пеня ў памеры аднаго (!!!) мільёна.

Пасяджэнне Вілейскага выканкама, які разгледзіць спрэчку паміж Сяргеем Малышом і дзяржаўным бюро, прызначана на 24 чэрвеня. Але нешта мне падказвае, што "вертыкаль" стане, у рэшце рэшт, не на бок простага рабочага.

Сам Малыш паведаміў "Народнай волі", што "ён будзе ісці да канца і абараняць свае правы". А яшчэ дадаў: "Я не супраць дзяржавы. Мне і раней было сапраўды ўсё роўна, хто гэтую дзяржаву ўзначальвае. Зараз — не. Здзіўляе тое, што дзяржава сама падштурхоўвае мяне і іншых грамадзян у апазіцыю".

**Алесь СІЛІЧ.**

## "А ну пошел в отделение, не то пристрелю, как собаку!" — услышал парнишка и увидел нацеленный на него пистолет. О том, что произошло, он рассказал в своем письме

Здравствуйте, уважаемая редакция газеты "Народная воля"!

Не знаю, может, случай со мной вам покажется пустяковым, но я не могу о нем молчать, не могу успокоиться до сих пор.

А было вот что. Недавним днем я вышел из дома со своей собакой, мы направились через дворы к площадке, где обычно гуляем. Как и всегда, овчарка была на поводке, пристегнутом к "строгому" металлическому ошейнику с шипами внутри (на случай, чтобы не могла резко дернуться).

В этот момент я увидел: навстречу нам идут двое милиционеров. И надо же такому случиться: когда мы поравнялись, Алтай, обычно послушный и миролюбивый, вдруг гавкнул. Видно было, что один из милиционеров сильно испугался (как известно, собаки чуют запах адреналина — "вещества страха" — и реагируют на него). Но встречному "смельчаку" ничего не грозило — собака ведь была при мне. Однако он разъярился:

— А ну возьми собаку на поводок! — рявкнул он.

— Так она на поводке...

Тогда "собеседник" выхватил из кобуры пистолет, направил его на меня и закричал:

— А ну пошел в отделение, а то пристрелю, как собаку!.

Я не стал упираться, чтобы не обострять конфликт. Пошел. Однако стоило мне приостановиться и оглянуться, как я увидел все тот же нацеленный на меня пистолет и услышал грозное:

— Вперед, я сказал!

Когда мы пришли, то мне приказали сидеть на улице перед отделением милиции, пока не вызовут мою маму: я ведь несовершеннолетний, мне 15. А потом допрашивали ее...

Вернувшись домой, я не удержался от нервного срыва. Я плакал, у меня тряслись руки. До сих пор стоит перед глазами тот пистолет и озлобленное лицо "стража порядка". Чем я провинился, кому причинил вред? Больше всего мне жаль маму: ее вызвали на комиссию администрации Фрунзенского района столицы и пообещали 50-тысячный штраф. Где мы возьмем такие деньги? И за что платить? Это же нам нанесен моральный ущерб!

Все думаю и думаю: неужели у нашей милиции всего-то и дел, что едва ли не падать в обморок при виде собаки да размахивать пистолетом перед носом подростка?

**А.К.,**
**девятиклассник одной из средних школ Минска.**

(По понятным причинам полное свое имя не называю.)

ПОЧТИ ШУТКА

## Агитировать нужно так, чтобы народ начало тошнить...

### или О том, как помочь Лукашенко остаться у власти еще на пять лет

**1. Самый надежный способ — под любым предлогом отказаться от участия в выборах.**

Например, потому, что их назначит "нелегитимная" палата. Или потому, что до сих пор сидит в тюрьме Андрей Климов. Или потому, что оппозиции не дают прямого доступа на телевидение и радио. Повод можно найти — было бы желание.

В этом случае обыватель поймет, что, кроме Лукашенко, на власть в этой стране никто не претендует, и обреченно проголосует за него. Запад заявит, что без участия оппозиции он выборы не признает. После этого можно радоваться тому, что оппозиция не содействовала признанию режима Западом, и почивать на лаврах этого события еще 5 лет.

**2. Менее радикальный вариант — выдвинуть 4—5 кандидатов в президенты и объявить их всех "едиными".**

Дальше до самых выборов разбираться, какой из них "единее". Собирать подписи за 4-х единых кандидатов — удовольствие, которое я пожелаю только злейшему своему врагу. Вам не приходилось собирать подписи за третьего кандидата после прохода двух групп сборщиков? Если до сих пор не приходилось, то у Вас есть шанс много нового узнать о себе, своих родственниках, своем кандидате, всех политиках, вместе взятых, и т.д. Поскольку избиратель не понимает, что такое "единый кандидат" с 4-мя фамилиями, то победа Лукашенко обеспечена еще в первом туре.

**3. В предвыборной агитации лучше всего оттолкнуть от себя всех потенциальных союзников.**

Отличный пример — недавно один "агитатор" набил морду лавочнику за незнание правильного значения слова "асадкі". После этого перед лавочником встал нелегкий выбор, за какого из двух "деятелей" проголосовать: за того, который регулярно душит всякими перерегистрациями и налогами, или за того, который первым делом заставит переписать все названия товаров на дореформенном белорусском, чем разорит быстрее и надежнее любой перерегистрации.

Поскольку покупателю эти названия также неизвестны, как и лавочнику.

**4. Агитировать нужно так, чтобы народ начало тошнить.**

Побольше политических требований, ярких лозунгов и заявлений. Нужно почаще устраивать митинги, количеством не более 5000 человек, чтобы все видели реальный уровень активной поддержки этих самых требований. Самих участников оппозиционных акций это вряд ли взбодрит, разве что милиция поможет своими дубинками.

**5. Есть еще один способ помочь Лукашенко — регулярно через СМИ обливать друг друга грязью.**

И, хотя Лукашенко не любит оппозиционеров всех без исключения, у него в команде есть несколько грамотных политтехнологов, которые обеспечат этим оппозиционерам доступ к телевидению, чтобы они, с одной стороны, без помех доносили до народа, как они друг друга не любят, с другой стороны, чтобы не было повода говорить, что оппозиции не дают эфира.

**6. Очень важно почаще "наезжать" на Россию.**

Поддержка российской элиты — единственная возможность для оппозиционного кандидата быть увиденным избирателями на телеэкране. За исключением, конечно, того, как покажет его БТ. Для многих избирателей это вообще единственная возможность узнать о существовании оппозиционного кандидата до получения избирательного бюллютеня.

Поэтому нужно объявить Россию "империей зла", всех россиян и русских по национальности — империалистами и "москалями" и пообещать после выборов коренное изменение вектора внешней политики. Россияне должны понимать, что более вменяемого партнера, чем Лукашенко, им в Беларуси не найти. И вопрос о том, кого они поддержат на выборах, решится сам собой.

**7. Не стоит забывать о чиновниках и милиционерах.**

Они хоть и склонны по роду своей деятельности поддерживать существующую власть, но униженное положение и маленькая зарплата могут заставить их колебаться. Эти колебания нужно решительно пресечь. Чиновникам надо объяснить, что все, кто участвовал в нарушениях закона хоть бы и по приказу сверху, пойдут под суд. Кроме того, они должны быть уверены, что после выборов будет произведена кадровая чистка и вместо друзей и родственников Лукашенко самые хлебные должности займут куда более голодные друзья и родственники нового президента.

Милицию нужно всячески оскорблять. На всех массовых мероприятиях швырять камни и провоцировать столкновения любыми способами. Чтобы милиционеру даже в голову не могла прийти мысль когда-нибудь побрататься с демонстрантами.

**Пессимист.**
**Draniki.com.**

